# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 42 (1181) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 15 КАСТРЫЧНІКА 1978 г. ЦАНА 60 гр.


## ЛІСТАВЕЙ

*А помніш?*
*А помніш?*
*А помніш?*
*Апоўдні,*
*Апоўдні,*
*Апоўдні,*
*А можа, і раніцай*
*Хтосьці*
*Мог аб кагосьці параніцца.*
*Ліставею арэлі,*
*А на іх мы з табою.*
*Ды як выйсце —*
*Восень стрэліла ў лісце!..*
*І ўжо ляціць яно куды?..*
*Адкуль, адкуль такія цуды?*
*Не паўтарайся,*
*Я забуду*
*Ці пераблытаю сляды.*
*На лета,*
*Ды на сёлета,*
*Не ўсё шчэ перамолата,*
*Не ўсё перабрадзіла,*
*Не сказана —*
*Адзіны.*
*Там,*
*Не за Краіінай гарою,*
*Цёмнаю парою,*
*Нібыта*
*Слізкія смаўжы,*
*Паўзуць*
*Гарбатыя дажджы.*
*На кожным горбе*
*Ды па торбе,*
*А ў кожнай торбе*
*Па паўтору:*
*Вясна,*
*Зіма,*
*Хмурынак кужаль.*
*Быў,*
*Ёсць,*
*Няма.*
*А лісце кружыць...*

**Нэла Тулупава**



**Па роднай зямлі.** *Рака Нараўка выступіла з берагоў. Кладка непадалёку Старога Ляўкова.*
*Фота Я. Целушэцкага.*

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

# ЧАСТКА ЖЫЦЦЯ

Па-сапраўднаму ён Хведар Данілевіч, але ведаюць яго як Шкадыянчука. Яшчэ нават цяпер, год-два таму назад, наказ прыслалі на гэтае прозвішча.

— Гэта мой такі нібы-псеўданім з часоў дзейнасці ў КПЗБ. Так прызывалі майго дзеда ці прадзеда, не памятаю ўжо, — паясняе.

Бацькі яго былі бежанцамі. Апынуліся ў Расіі. І там у 1916 годзе ў вёсцы Цімафееўка нарадзіўся Хведар. Надарылася магчымасць і сям'я вярнулася ў сваю родную вёску Мядзвежыкі, што зараз у Мілейчыцкай гміне. Дзевятнаццацігадовым юнаком уступіў у рады КПЗБ. Перакананне зрадзілася само па сабе. Яшчэ ў школе разумеў, што гэта такое бальшавік, што значыць слова камуніст. У свае шаснаццаць год ясна бачыў ужо сваю дарогу. Ужо тады хацеў уступіць у рады КПЗБ, але трэба было праверыцца, чымсьці паказацца. Ячэйка запрапанавала яму, каб пакуль што быў сімпатыкам. Дала заданні. Галоўнае — сабраць вакол сябе моладзь, разносіць лістоўкі, вывешваць сцягі. Гэтак было да 1935 года. Добра выкананае заданне адкрыла дарогу ў члены. З гэтай пары стаў агітатарам сярод моладзі сваёй вёскі. Нелегальная літаратура, збіранне грошай на дапамогу вязням беластоцкай турмы. Неўзабаве пра дзейнасць мядзвежыцкіх КПЗБоўцаў ведалі і другія групы. Наладзілі супрацоўніцтва. Прыслалі літаратуру — украінская газета „Сіла" з Львова, „Чорнае па белым" з Варшавы. Аднойчы прыйшоў з Варшавы каталог, да якога быў далучаны ліст: „Калі хочаце набыць у нас кніжкі, выберыце і мы вам прышлем". Склікалі сход. Каталог быў аб'ёмісты. Выбралі тады тры тамы прац Леніна, „Капітал" Маркса, працы Мархлеўскага, Дзяржынскага. Сабралі немалую бібліятэку — 65 тамоў. Пачаткова хавалі яе ў Івана Карнілюка, — камуніста і ўдзельніка рэвалюцыі, потым Хведар Данілевіч хаваў сам.

— Чыталі на тайных сходах, — успамінае Х. Данілевіч. — Найгорш было з няяснымі словамі. Як сёння памятаю, рабілі свой слоўнік. Выпісвалі ўсе незразумелыя словы і супольна паясняліі. Сёння яшчэ ёсць гэты слоўнік. У 1967 годзе разам з бібліятэкай і блакнотам аб дзейнасці мядзвежыцкай групы КПЗБ я пераказаў яго ў Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку. Цэлы рух, уся дзейнасць абапіралася ў асноўным на моладзі. Трэба было дзейнічаць не толькі ў сябе, але даходзіць і да другіх вёсак. Прыносіць туды літаратуру, агітаваць.



Працяг на стар.4

## ВЫХАВАЎЦА І АДКРЫВАЛЬНІК

З **Сяргеем Харкевічам,** дырэктарам пачатковай школы імя А. Фларэнкі ў Гайнаўцы, я спаткаўся ў канцы дня. З класным журналам і стусам дапаможнікаў у руках ён ішоў паволі па калідоры і нешта жыва абмяркоўваў з акружыўшай яго грамадкай вучняў. Па ажыўленай размове і бляску ў вачах у дырэктара і яго выхаванкаў не цяжка было здагадацца, што гутарка зусім не ішла аб звычайных штодзённых справах, але датычыла нечага такога, што іх цалкам запаланіла. Што ж, гэта быў верасень — у школе сама час успамінаў з прайшоўшых канікул, справаздач аб добрых справах і складвання планаў на ўвесь новы школьны год: і на займальныя заняткі ў розных вучнёўскіх арганізацыях і гуртках, і на грамадскія пачыны для дабра школы і горада, і на... А планаваць ёсць што! Гайнаўская „двойка", бо так тут называюць гэтую папулярную і карыстаючуюся вялікім аўтарытэтам школу, даўно ўжо адмовілася ад традыцыйных прыёмаў навучання. Працуе яна па метаду вядомага рускага педагога К. Д. Ушынскага. У ёй маладое пакаленне ўзрастае пад уздзеяннем найлепшых мясцовых грамадскіх і культурных традыцый.

Пачынаючы з другога года навучання ва ўсіх класах тут вядзецца навучанне беларускай мовы. Хоць наведванне заняткаў па гэтаму прадмету дабравольнае, але ахвотных вывучаць яго ёсць многа, і з кожным годам колькасць іх павялічваецца. Не малая ў гэтым заслуга настаўніц беларускай мовы: выпускніц беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта **Ольгі Андрэюк** і **Зінаіды Плевы,** выпускніцы беларускай філалогіі Настаўніцкай студыі ў Беластоку **Анастасіі Майсені** і былой выхаванкі Бельскага беларускага ліцэя і выпускніцы Вышэйшай настаўніцкай школы **Ірыны Башун.** Яны не шкадуюць сваіх намаганняў, каб кожны ўрок праходзіў на высокім узроўні і займальна.

Дбае пра гэты прадмет і дырэктар школы. Перш за ўсё ён паклапаціўся, каб яго дзеці ад самага пачатку хадзілі на ўрокі беларускай мовы: і дачка Ася, што цяпер вучыцца ў трэцім класе Гайнаўскага беларускага ліцэя, і сын Яраслаў, які ходзіць у восьмы клас у гэтай жа „двойцы". Пра вялікую ролю навучання роднай мовы ў выхаванні і адукацыі маладога пакалення ён праводзіў і праводзіць пераканаўчыя гутаркі з многімі бацькамі-беларусамі. Цяпер жа стараецца абсталяваць кабінет беларускай мовы.

Не астаецца па-за ўвагай дырэктара і гарцэрская арганізацыя — у навейшай сістэме навучання і выхавання яна адыгрывае вельмі істотную ролю. Тут каля 70% вучняў належыць да гарцэрства і актыўна дзейнічае ў розных яго мерапрыемствах. Перш за ўсё гарцэры ўтрымоўваюць сталую цесную сувязь з бацькамі патрона школы, лейтэнанта Аляксея Фларэнкі, які загінуў у часе вызвалення Беласточчыны, яны жывуць у горадзе Перме ў СССР. Валейбалісты з „двойкі" належаць да вядучых на Беласточчыне. У школе дзейнічае многа розных гурткоў зацікаўленняў, між іншым, лялечны тэатр, частку гэтых гурткоў вядуць бацькі вучняў, напрыклад, „Умелыя рукі" ці „Юныя гаспадыні". І не дзіва, што ў „двойцы" заўсёды людна надоўга пасля ўрокаў. Цяжка пералічыць усе тыя добрыя справы, якія штодня праводзяцца ў гэтым будынку.

І то ў той час, калі дырэктар ужо рыхтуецца да яго расшырэння. Ён намерваецца дабудаваць яшчэ 12 новых памяшканняў на класы і кабінеты, збудаваць сталовую, узвесці навейшую фізкультурную залу, павялічыць... Так, гэтых прац у дырэктара з кожным годам будзе прыбаўляцца, бо „двойка" ў выніку ажыццяўлення заданняў рэформы асветнай сістэмы, што цяпер прыводзіцца ва ўсёй нашай краіне, разрасцецца ў вялікую школу-дзесяцігодку. Але да будаўнічых клопатаў С. Харкевічу не прывыкаць.

— Бо бачыце, — заўважае ён, — будаванне проста кружыць у маіх жылах з маленства. Паходжу я з вёскі Сушча, што над ракою Нарвай, на самай мяжы гмінаў Міхалова і Нараўка. Мой

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)

# ВЫХАВАЎЦА І АДКРЫВАЛЬНІК

бацька Павел і дзядзька Аляксандр — гэта сталяры. З-пад іх сякераў, цілаў ды гэблікаў вырасла не мала зграбных хатаў, ладных вокан і дзвярэй. Мой тата сам любіць працаваць і да гэтага мяне таксама прывучыў з маленства. Пасля вайны бацькі пераехалі ў Ляўкова. Давялося будаваць усё, пачаўшы ад падмуркаў. А я ж быў бацьку галоўны памочнік.

Гэтая гаспадарская працавітасць і стараннасць выявілася ў Сяргея Харкевіча ва ўсім. Дваццацігадовым юнаком ён з дасканалымі вынікамі заканчвае ў 1953 годзе ліцэй ТПД у Беластоку і неўзабаве ідзе на вайсковую службу ў слаўным Першым пражскім механізаваным палку дывізіі імя Т. Касцюшкі. Пасля дэмабілізацыі здабывае педагагічныя кваліфікацыі і ад таго часу па сённяшні дзень аддаецца працы ў асвеце на Гайнаўшчыне: працуе павятовым інструктарам Таварыства прыцеляў дзяцей, падінспектарам у гайнаўскім інспектараце асветы, настаўнічае ў Ляўкове, Арэшкаве, Гайнаўцы, актыўна дзейнічае ў розных грамадскіх арганізацыях, а ўвесь свой вольны час прысвячае... краязнаўству!

Гэтае зацікаўленне вырасла ў С. Харкевіча з яго ўлюбёнасці да ўсяго роднага: маляўнічых далін рэк Нарвы і Нараўкі, таемнага ценю пад вышэзнымі дубамі і елкамі суседняй Лядскай пушчы, спавітых легендамі прынараўскіх даўных гарадзішчаў і курганоў, красачнай роднай гаворкі... І гэта схіліла яго закончыць завочна ў Настаўніцкай студыі ў Пятркове Трыбунальскім іменна геаграфію. Але гэта быў толькі пачатак. У 1971 годзе ён паспяхова абараняе ў Люблінскім універсітэце імя М. Складоўскай-Кюры магістэрскую працу на тэму „Геаграфічна-гаспадарчы нарыс Гайнаўскага павету“, якая здабывае ўзнагароду беластоцкага ваяводы. З гэтым даследаваннем ён выступае на навуковым семінары ў Бельску Падляшскім і яно публікуецца ў зборніку „Беластоцкі рэгіён“, том III, 1974 г. У міжчасе прафесар Я. Эрнст з Любліна прапануе яму напісаць доктарскую працу на тэму „Турыстычна-гаспадарчае значэнне Белавежскай пушчы“. У выніку некалькіх год надзвычай карпатлівых і рознабаковых даследаванняў праца С. Харкевіча амаль што ўжо гатова, неўзабаве наступіць яе абарона. А ў той час...

А ў той час улюбёны ў краязнаўства яе аўтар ўлетку бягучага года вярнуўся са свайго ўжо 32-га паходу з чарговым вандроўным маладзёжным лагерам. Такім чынам дырэктар С. Харкевіч не толькі заслужаны дзеяч Польскага турыстычна-краязнаўчага таварыства, але і сам нястомны турыст-вандраўнік. Яго пяру належыць вельмі цікавы турыстычны інфарматар для моладзі „Гайнаўка і ваколіцы“, што ў 1975 годзе выйшаў з друку ў Варшаве. Але аўтар гэтай прыемнай кніжачкі схадзіў пешшу не адно Гайнаўшчыну, дзе яму знаёма кожная сцяжынка ў полі і кожная трыбачка ў лясах, ён стаптаў ўсю паўночна-ўсходнюю Польшчу, пачаўшы ад Гданьскага заліва і на Люблінскім Палессі кончыўшы. Гэтая яго ўлюбёнасць у падарожнічанне перадалася і жонцы Марыі, таксама настаўніцы, якая ўдзельнічала ўжо ў 15 вандроўных лагерах па розных маршрутах. Ад бацькоў ні ў чым не хочуць быць горшымі і дзеці, якія з маленства вандруюць з імі крок у крок. Таксама і ў школе вялікую актыўнасць праяўляе „Клуб турыстаў“.

„І калі ён паспявае рабіць усё гэта!“ — міжвольна ўзнікае пытанне. На яго я не маю адказу. Хіба гэта абсалютна асабістая таямніца дырэктара мгр Сяргея Харкевіча. Калі глядзіш на яго стройную элегантную постаць, не заўважаеш у ёй і следу нейкай забеганасці. У кожным яго руху і слове адчуваецца развага і спакой удумлівага выхаваўцы і нястомнага адкрывальніка, закаханага ў сваю дзейнасць.

**Мікалай Гайдук**





# САКОЛЬСКАЯ МАЛОЧНАЯ РАКА

Малачарскае прадпрыемства ў Саколцы забяспечвае малочнымі вырабамі горад Саколку і чатыры гміны: Кузніцу, Саколку, Шудзялава і Крынкі. Сакольскае масла высылаюць нават за мяжу. У бягучым годзе на экспарт пайшло 200 тон. У мінулым годзе прадпрыемства выпусціла прадукцыю ў 120 мільёнаў злотых.

Прадпрыемства мае вялікі ўплыў на гаспадарчае развіццё навакольных гмінаў. У раёне яго дзейнасці 1600 гаспадароў спецыялізуецца ў прадукцыі малака. Да найлепшых сярод іх належаць: Тадэуш Рэдус са Слойкі (гміна Шудзялава), які прадае дзяржаве звыш 22 тысяч літраў малака ў год, Мікалай Белабокі з вёскі Чцянэ Новае ў Шудзялаўскай гміне, Станіслаў Друць з Юраўлянаў (гміна Крынкі) і з Сакольскай гміны Станіслаў Врублеўскі з Камёнкі Старой, Чэслава Дарашкевіч і Альфрэд Семяняка — абое са Старога Шора, Станіслаў Чапляевіч з Краснянаў і іншыя. Усім ім сакольская малачарня дапамагае забяспечыцца кармамі, атрымаць электрадаілкі.

У Саколку прывозяць малако з 38 прыёмных пунктаў. Найбольш з Яноўшчыны, Малявічаў Дольных, Богушаў, Сакалянаў і Разадранкі Старой. У многіх пунктах скупкі ёсць халадзільнае абсталяванне і туды дастаўляюцца гатовыя малочныя вырабы.

Зараз мадэрнізуюцца злеўні малака ў Кузніцы, Камёнцы Старой, Сакалянах, Геніюшах і Яноўшчыне.

Малачарскае прадпрыемства ў Саколцы пачало прадукаваць больш тваражкоў і сыра „клінкі“. Будзе яго выпускаць тры тоны ў суткі.

У Саколцы будуецца новы пункт скупкі малака і кармасклад коштам у 2 мільёны злотых.

**Я. Целушэцкі**

### ЦІ ВЕДАЕЦЕ, ШТО...

...рады нарадовыя ў нашай краіне стварылі 2 402 камітэты грамадскага кантролю.

...лепшымі сельскагаспадарчымі прадукцыйнымі спулдзельнямі ў Беластоцкім ваяводстве з'яўляюцца РСП у: Старым Корніне, Кандратках, Рыбалах, Дарожках, Нарве і іншыя. Усіх іх ёсць 52.

...у Беластоцкім ваяводстве гмінныя кааператывы „Самапомач хлопска“ вядуць 32 пякарні, 20 заводаў газіраваных напіткаў і 1098 крамаў з харчовымі прадуктамі першай патрэбнасці.

**(яц)**

### ДАРОЖНЫЯ ПАРТРЭТЫ



*Дзядзька з Машчоны Каралеўскай каля Мельніка.*
*Фота М. Гайдука.*




(Працяг са стар. 3)

заўтра сустрэцца, але ўсё гэта былі толькі абяцанні. Ні адзін, ні другі не з'яўляўся, і мае надзеі, што змагу паказацца з кімсьці ў кафэ ці кіно, прайсці па горадзе, каб убачылі, што і я такая, як іншыя, лопалі як бурбалка. Удзень цураліся майго калецтва.

Школа дала прафесію пераплётчыка. Праца. Пачаткова здавалася, усё добра. Паставіла традыцыйнае ўступнае, як гэта ўжо прынята. Але потым усё пачало халадзець. Зноў гэтыя страшныя насмешкі, дакучанне.

— Божа, хай лепш ужо маўчаць, не гавораць са мной, абы толькі не дакучалі, — чытаю ў біяграфіі. — А можа так...

І ў галаве паявілася думка. Як толькі дакучанне даходзіла да кульмінацыйнага пункта, прыходзіла з бутэлькай. Лагодзіла. На нейкі час усё ўладжвалася. Але справа набрала рэгулярнасці. Калі не прыносіла, пачалі дапамінацца. Адмовіла і тады не вытрымала. Паўтарылася хвароба. Прыступ, на шчасце, быў лёгкі.

— Баялася, каб не заўважылі. Добра, што былі гэта вельмі лёгкія, слабенькія сутаргі.

Распачала вечаровую вучобу ў агульнаадукацыйным ліцэі. Залічыла першае паўгоддзе, потым год. Вялікай радасцю было паяўленне новага працаўніка. Здавалася, прыхільная душа. Бараніў яе ад насмешак. Нават радыёпрыёмнік уключаў галасней, каб і яна чула. Закахалася, а той, відаць, толькі і чакаў. Пачаў пазычаць грошы, якіх ніколі не аддаваў. Калі ўпамянулася, дык стаў такі, як іншыя.

— Як жыць, навошта, каб быць аб'ектам пацехі другім? Пачала думаць аб смерці; — страшным холадам пранізваюць душу поўныя роспачы словы.

З дапамогай прыйшла лекарка. Параіла перайсці на пенсію. Другая інвалідская група, чатыры гады працы...

— На днях усё вырашыцца, — гаворыць Эва. — Найважнейшае, каб адыйсці ад гэтых людзей, не бачыць іх. Можа ўдасца ўсё пачаць нанава. Маю ўжо сяброўку, яна таксама калека, гарбатая. Ёсць з кім пагаварыць, падзяліцца, выйсці. Змагу прынамсі спакойна вучыцца, бо школу закончыць мушу, паставіла перад сабой такую мэту. Ды і хадзіць туды люблю, можа таму, што не смяюцца з мяне. Не праяўляюць вялікай цягі да сяброўства, але прынамсі не смяюцца, не дакучаюць. Ну што, прагляну лі? — пытае, беручы сшытак.

Ківаю моўчкі галавою. — А як ваша прозвішча?

— Ды ці гэта істотнае? Магу вам сказаць, калі хочаце.

І сапраўды, ці ж гэта істотнае?..

**Міхась Шаховіч**

(Працяг са стар. 1)

# ЧАСТКА ЖЫЦЦЯ

— Найлепшым спосабам было ўладжванне музык, якія выкарыстоўвалі мы для распаўсюджвання лістовак. Памятаю, арганізавалі гэтакія музыкі ў Мікулічах, — расказвае Данілевіч. — Было нас там некалькі чалавек. Мелі з сабой літаратуру. І нехта, відаць, з мясцовых, заявіў у паліцыю, што найшло многа камуністаў. Уварваліся. Я міргнуў да аднаго і давай пачынаць бойку. Б'емся, прыкідваючыся п'янымі. Я, згледзеўшы, што падыходзіць да нас камендант паліцыі з Мілейчыц, быццам бы беручы размах на свайго „ворага“, так і ляснуў яго. Забралі нас да солтыса. Добра. Заняліся намі. Да другіх, значыць, чапляцца не будуць, пакінуць. Нас павялі, а апошнім такім чынам удалося раздаць лістоўкі. Моцна нас тады паліцыя пабіла. Тры тыдні адчуваў. Затрымаць не маглі — не мелі доказаў. На забаву вярнуліся, як бы нічога не здарылася, каб не рабіць панікі, не палохаць слабейшых характарам.

Мядзвежыцкая група КПЗБоўцаў налічвала 6 членаў. Сакратаром быў Іван Навумчык, яго намеснікам — Хведар Пашкоўскі, часамі заступаў Іван Карнілюк. Апошнія два — удзельнікі рэвалюцыі. Хведара Данілевіча ў пэўным часе пачала падазраваць паліцыя. Аднойчы вечарам, ідучы з суседзямі ў Рагачы, спявалі антысанацыйныя песні. Злавілі паліцэйскія і моцна пабілі. Западозрылі.

— А справа ў тым, што большасць тэкстаў была майго аўтарства. Потым збіраліся, наносілі супольна папраўкі, падбіралі мелодыю і спявалі. І я быў вымушаны пакінуць часова вёску. Пайшоў вучыцца на краўца ў Залешаны да Пятра Амільяновіча. Гэтае кравецтва мне ўвогуле непатрэбнае, бо я ж, як бачыце, не надаюся, У мяне касавокасць. Але быў вымушаны пайсці, — паясняе Данілевіч.

У часы савецкай улады Хведар Данілевіч працаваў на чыгунцы ў Чаромсе. Потым распачалася вайна з гітлераўцамі. Ад першых дзён вайны да 22 ліпеня 1944 года быў сувязным партызанскага атрада „Чэкіст“, якім камандаваў Рыгор Каравай.

— З Караваем пазнаёміўся я, яшчэ працуючы на чыгунцы ў Чаромсе. Сам ён родам са Ставішчаў. Быў гэта бадай што 1938 год, — успамінае Хведар Данілевіч. — Арганізаваў ён тады забастоўку, каб павысілі плату. Баставалі ўсе, хто толькі хадзіў на працу. Сваё выявалі.

Дастаўляў атраду харчы, вопратку. Арганізаваў акцыі збірання зброі. Галоўным аднак былі інфармацыі пра немцаў, якія пераказваў Сцяпану Вішанку.

— Жыў ён на хутары каля Мікуліч і там было найлепш утрымоўваць сувязь з партызанамі, — гаворыць.

Вайна закончылася. Пасля вызвалення дзейнічаў у ГСе. Быў прэзасам Сялянскай самадапамогі ў Мядзвежыках, а адначасова адным з арганізатараў ГСу ў Рагачах. У 1949 годзе ўступіў у рады ПАРП, будучы ў гадах 1949-1953, а потым у 1970-1972 першым сакратаром партыйнай арганізацыі ў сваёй вёсцы. Свайго часу, на працягу аж пятнаццаці год — ад 1945 па 1960 быў радным, пачаткова гміннай, а потым грамадскай рады нарадовай у Мілейчыцах і Рагачах, што сведчыць аб яго папулярнасці і пашане ў народзе.

Хведар Данілевіч надалей з'яўляецца актыўным членам партыі. Надалей бярэ ўдзел у грамадска-палітычным жыцці сваёй гміны. Жыве ў Мядзвежы-

Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

# НАШАНІЎСКАЯ ПАРА

### ЯКУБ КОЛАС — ЧАСТКА XIII

**У рамантычнай плыні.** Схільнасць да рамантычнага падыходу да тэмы выступіла ў пачатковы перыяд творчасці Коласа і не знікла ў яго літаратурнай практыцы да апошніх дзён жыцця. Найбольш характэрнымі доказамі рамантычных захапленняў Коласа з'яўляюцца: апрацоўкі народных казак, алегарычныя навелы, паэма „Сымон-Музыка".

Беларускі рамантызм мае спецыфічныя рысы, якія адрозніваюць яго не толькі ад рамантызму англійскага ці нямецкага, але ад рамантызму рускага і польскага. З прычыны стогадовага спазнення ў адносінах да еўрапейскага рамантызму беларускі рамантызм не выступіў у чыстай, першабытнай форме. Прасяк ён элементамі сентыменталізму і перш за ўсё рэалізму, які быў галоўным напрамкам літаратуры пачатку XX стагоддзя. Беларускія пісьменнікі перыяду „Нашай нівы" знаходзіліся пад уплывам польскай і рускай літаратуры. Несумненна, мае рацыю выдатны беларускі гісторык літаратуры Бабарэка, які піша: „Беларуская літаратура развіваецца ў своеасаблівых умовах. З двух бакоў узбагачаюць яе розныя дзедзічныя літаратуры суседніх народаў. На творах і культуры гэтых літаратур выхоўваюцца як беларускія пісьменнікі, так і іх чытачы. Больш таго, сама беларуская літаратура нарадзілася на ўзлонні краёвай польскай літаратуры. Праз яе яна ўпершыню выйшла ў свет, пад яе апякунчым крылом яна развівалася амаль усё XIX ст. У XX ст. да гэтай лініі далучаецца яшчэ адна плынь, што ідзе ўжо з калыскі расійскай літаратуры".

Зразумела, што было б памылкай, калі б мы творчых інспірацый Коласа шукалі выключна ў літаратурах суседзяў і недаацэньвалі беларускую народную творчасць і беларускую тагачасную рэчаіснасць.

І так захапленне народнай казкай было першым праявам рамантычных схільнасцей пісьменніка. У 4 і 5 тамах Збору твораў Коласа знаходзім 23 беларускія і 19 рускіх апрацовак народных казак. Да арыгінальных і пасляdоўна рамантычных належыць вялікі цыкл навел, якім пісьменнік надаў загаловак „Казкі жыцця".

Першыя творы гэтага цыкла паявіліся ў „Нашай ніве" ў 1906 годзе, апошнія былі напісаны пісьменнікам у апошнія гады яго жыцця. З гэтага вынікае, што Колас на працягу ўсёй сваёй літаратурнай творчасці аддаваў даніну рамантычным захапленням. Першае кніжнае выданне „Казак жыцця" паявілася ў 1921 годзе. З таго часу гэта кніга многа разоў перадрукоўвалася.

Крытыкі 30-х гадоў нядобразычліва адносіліся да „Казак жыцця", знаходзячы ў іх праявы памылковых ідэй аўтара. Аднак сам Колас адносіў іх да галоўных сваіх творчых дасягненняў. Вядомы крытык Ю. Пшыркоў у пасляслоўі да „Казак жыцця" з 1960 года напісаў: „Дарэчы, Колас у лісце да аўтара гэтых радкоў яшчэ ў 1939 годзе пісаў, што „Казкам жыцця" ён надае вельмі вялікае значэнне і ставіць іх у след за паэмамі „Новая зямля" і „Сымон-Музыка". Ён выказваў сваё здзіўленне тым, што адзін з самых лепшых і задушэўных яго твораў крытыка абыходзіць глыбокім маўчаннем".

Разведка гаспадарнасці

### ПКС НЕ СТАРАЕЦЦА...

Так кажуць жыхары вёсак: Палічна, Старына, Войнаўка, Вярсток і Чэхі Арлянскія, у якія аўтобусы ПКС даволі часта не прыязджаюць. Так было, напрыклад, 3 і 18 верасня гэтага года (у гэтыя дні мы не маглі вярнуцца назад з камандзіроўкі). Жыхары спамянутых вёсак налічылі значна больш такіх дзён, калі аўтобус сюды не прыязджаў. Чаму ён не прыязджае, невядома. Бывае, прыедзе аўтобус ПКС з Беластока ў Гайнаўку, пастаіць на стаянцы недзе збоку, і гайда ізноў назад у Беласток. Так было 18 верасня. А людзі чакаюць і не могуць дачакацца яго ў Старыне, Палічнай, Войнаўцы...

Варта, каб дырэкцыя Ваяводскага прадпрыемства ПКС у Беластоку ўдзяліла больш увагі гэтай справе. Мы будзем чакаць іх адказу.

Гмінныя ўлады ў Дубічах Царкоўных і Кляшчэлях маглі б таксама паклапаціцца пра пабудову крытых паўстанкаў або хаця пра лавачкі ў пяці спамянутых вёсках (гэтай апошняй справай маглі б заняцца таксама солтысы).

На пабудову дашкоў на паўстанках гмінныя ўлады маюць фонд і ён не заўсёды належна выкарыстоўваецца.

**Іван Непаседа**

---

ках. Яшчэ да мінулага года разам з жонкай Вольгай гаспадарылі, апрацоўвалі зямлю. Але сілы ўжо не тыя, не тое здароўе. Хварэў, прайшоў некалькі аперацый і быў вымушаны здаць зямлю за пенсію. За плённую дзейнасць на грамадскай і палітычнай ніве быў узнагароджаны „Медалем 30-годдзя ПНР" у 1974 і сярэбраным знакам „Заслужаны для Беласточчыны" ў 1975 г. А ў 1977 годзе за актыўную дзейнасць у КПЗБ і супрацоўніцтва з партызанамі ды плённую працу ў радах ПАРП быў узнагароджаны Кавалерскім Крыжам і прызналі яму спецыяльную пенсію.

— Гэта толькі частка. Ці ўсё так адразу ўспомніш? — гаворыць ён, гартаючы ў памяці дні свайго мінулага. — Тут можна было б расказваць некалькі дзён, і пра тое, як мы вывешвалі сцягі між Кляшчэлямі і Чаромхай перад святам Кастрычніцкай рэвалюцыі і як дапамагаў скрывацца Пятру Саўчынскаму — рэвалюцыянеру і камуністу, які быў родам з Белак, тых, што тут каля нас, і пра здрадніка Баенскага з Сабятына, які выдаў семярых нашых камуністаў, і... Ой многа-многа ўсяго. Але ці ўсё так адразу ўспомніш? Як бы цікавіла, дык калі ласка, прыязджайце, — гасцінна запрашае, развітваючыся.

**М. Шаховіч**
**Фота аўтара**

## Слова аб будаўніцтве

На керамічным прадпрыемстве ў Ляўкове шмат мясцовых людзей атрымала працу. Дзякуючы гэтаму, у дзвюх суседніх вёсках — Старым і Новым Ляўкове пачалі вырастаць прыгожыя мураваныя дамы. Ад 1973 года пабудавана 33 жылыя дамы і звыш 50 гаспадарчых будынкаў. Сяляне не выязджаюць з гэтых вёсак у пошуках працы. Усе яны працу маюць на месцы. Ды апрача таго даюць рады гаспадарыць, што забяспечвае іх харчовымі прадуктамі.

У Нараўкаўскай гміне нарадзілася шмат будаўнічых спраў у сувязі з будовай воднага басейна ў Семяноўцы. Неабходна перасяліць у іншыя месцы шмат сем'яў. І так з Лукі — 106 сем'яў, з Семяноўкі — 21 і з Тарнопаля — 19. Луччане з-над ракі будуць пераселены ў другое месца, на палі гэтай жа вёскі. Там ужо вызначаны надзелы на сялібы. Пакуль што 40 сем'яў выказалі згоду пабудавацца на новым месцы.

У Семяноўцы падрыхтоўваецца 30 дзялянак для такога ж будаўніцтва. На новых месцах плануецца пабудова крамаў, спартыўных пляцовак і іншых паслуговых аб'ектаў. Аб гэтым паінфармаваў нас інспектар па справах будаўніцтва ў гміне Нараўка — Мікалай Ціханюк. **(мх)**



**У нашым аб'ектыве.** Белагрывы прыгажун. Фота В. Рудчыка.

ФАЛЬКЛОР

БАЛАДА

Adagio



*Там на по-лі шы-ро-кень-кум, там зэ-лё-ны дуб сто-яў,*



*а под тым зэ-лё-ным ду-бом хло-пэць дэў-ку на-мов-ляў.*

*Там на полі шырокенькум,*
*там зэлёны дуб стояў,*
*а под тым зэлёным дубом*
*хлопэць деўку намовляў,*
*а под тым зэлёным дубом*
*хлопэць діеўку намовляў:*
*— Дівчынонько, моя люба,*
*чы ты пуойдэш за мэнэ?*
*Як я з вуойська повэрнуся,*
*возьму замуж за сэбэ,*
*як я з вуойська повэрнуся,*
*возьму замуж за сэбэ.*
*— Ой, була то тая праўда,*
*што я буду за тобой!*
*Ты богаты, а я біедна,*
*ты хорошы сам собой,*
*ты богаты, а я біедна,*
*ты хорошы сам собой.*
*У тэбэ коны, у тэбэ волы,*
*у тэбэ русы волоса —*
*ты нэ будэш мэнэ браты,*
*бо я біедна сырота,*
*ты нэ будэш мэнэ браты,*
*бо я біедна сырота.*
*У тэбэ батько, у тэбэ маты,*
*у тэбэ руодная сэстра —*
*нэ позволят мэнэ браты,*
*бо я біедна сырота,*
*нэ позволят мэнэ браты,*
*бо я біедна сырота.*
*— Позволь, папенька, жэнытся,*
*зволь узять, кого люблю.*
*— Жэнысь, жэнысь, мой сыночку,*
*бэры богацькую дочку,*
*жэнысь, жэнысь, мой сыночку,*
*бэры богацькую дочку.*
*— Богатая — проклятая,*
*будэ мэнэ проклінать,*
*а біедная — горэ знае,*
*будэ мэнэ шановать,*
*а біедная — горэ знае,*
*будэ мэнэ шановать.*

Ад Таццяны Гурын, 1939 г. нараджэння, і Надзі Грушэўскай, 1942 г. нараджэння, вёска Арэшкава гм. Гайнаўка, запісаў 21 мая 1978 г. Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнітафоннай стужкі Людмілы Панько.

ГМІННЫЯ НАВІНЫ

## Будуюць сабе сядзібу

У цэнтры Міхалова шпаркім тэмпам ідзе пабудова мураванага будынка для гміннага ўпраўлення. Пры пабудове фундаментаў і пры ўсіх іншых дапаможных работах прымаюць актыўны ўдзел сяляне з Міхалоўскай акругі. Яны перш за ўсё ўласнымі фурманкамі прывозяць на месца пабудовы неабходныя будаўнічыя матэрыялы.

Пры пабудове спамянутага аб'екта асабліва многа працуюць грамадскім чынам работнікі (у тым ліку найбольш мужчыны) гміннага ўпраўлення.

## Цёмна на вуліцы...

...у даволі вялікай вёсцы Войнаўка ў гміне Дубічы Царкоўныя. Цяпер асеннія вечары і ночы бываюць цёмныя, і невядома чаму дый каго за гэта вінаваціць, што на вуліцы не гараць электралямпачкі. Несумненна, гэтай справай павінен зацікавіцца солтыс, але і іншыя жыхары гэтай вёскі могуць паведаміць начальніку гміны аб пашкоджаннях электраўстаноўкі вулічнага асвятлення. А мо яны гэта зрабілі і іх прашэнні асталіся без ніякага водгуку?

**Іван Непаседа**

(Працяг са стар. 3)




нае стварэнне. У яе кожная дэталь акурат такая, як трэба, і там, дзе трэба: і рука, і нага, і іншыя рэчы. А прынцыповасць якая і якім багатым і вобразным слоўнікам яна карыстаецца, што, здаецца, слухаў бы і слухаў яе. Мой нос, напрыклад, параўноўвае з памідорам, ці ж не арыгінальна? І памідор тут не выпадковы, на яе думку, насавая чырвань ад выпівак паяўляецца, з тым, што такіх вульгарызмаў, як „выпіўка", „выпіў", яна не ўжывае, замяняе іх простым і мілым словам „налізаўся". А якія навуковыя ў нас дыскусіі бываюць! Вось, напрыклад, учора. Сядзім мы з Анфіскай і чытаем: яна французскі раманчык, а я „Польскую кухню". Адрываю свой позірк ад кніжкі і бачу: мая Анфіска ўважліва глядзіць на мяне і хітра-хітра ўсміхаецца, а потым кажа:

— Ведаеш, Піліп, што думаю я?

— Не, не ведаю, — адказваю.

— Я так і знала, ты ніколі нічога не ведаеш. Рассукаць цябе трэба.

— Як гэта рассукаць і з якой рацыі? — заікнуўся я.

— Напрыклад, як кавалак гліны. Тады ты і ростам пабольшаеш і не будзеш такі тоўсты.

За дзесяць год супольнага жыцця я добра прысвоіў ісціну, што Анфісцы пярэчыць нельга. Яна заўсёды мае рацыю. Але са страхам падумаў, каб хаця рассукванне маёй асобы не дaручыла суседу-прыгажуну, якога заўсёды мне ў прыклад ставіць, а то да смерці засуча, прахвост. Але не, гэтага не зробіць, напэўна не зробіць. Жонка гэта свой чалавек і законнаму мужу прыкрасці ніколі не зробіць.

І што вы на гэта скажаце? Ці ж не варта жаніцца?..

**Піліп Саскі**

# Узровень развіцця

Сядзім мы неяк за сталом з сябрам майго дзяцінства і яго жонкай. Побач круціцца іх пяцігадовы сын Воўка.

Гледзячы на гэтага жвавага хлопчыка, я думаю аб сабе і сябрах свайго дзяцінства: „Як адрозніваюцца сучасныя дзеці ад дзяцей майго часу! Сучасныя дзеці і больш кемлівыя, і больш рухомыя...“

Вера, жонка майго сябра, заўважыла, што мой новы гальштук мне да твару. Мой сябра Гена — таксама заўважыў.

І толькі іх сын скептычна, калупаючыся ў носе: „Падумаеш: новы гальштук, у мяне вунь новая балячка, учора нагу падрапаў і то нічога, а ён...“

— Ты б лепш выцягнуў палец з носа, а то чаго добрага яшчэ разбу сарвеш, — параіў бацька. — А наогул, ідзі ты лепш адсюль і не круціся каля дарослых.

— Па-першае, у мяне паміж носам і пальцам не разбівное злучэнне, а па-другое...

— А па-другое, — рэзка абарваў яго бацька, — хуценька адсюль, бо зараз сам выведу, тады горш будзе.

Я, каб не прысутнічаць у час выхавання дзіцяці, пачаў развітваццa: „Ну, герой, давай пяць“, — сказаў я, звяртаючыся да Воўкі.

— Не, пяць не дам, хопіць з цябе і тры, — адказаў Воўка і працягнуў мне ручку, на якой і сапраўды тры пальцы былі згорнуты ў даволі-такі цікавую фігуру.

Вера, збялеўшы, закрычала на высокіх нотах: „Ты як сябе паводзіш з дарослымі, нягоднік?“.

— А чаму ж ён учора адабраў ад мяне ката, якога я цягнуў за хвост да пясочніцы? Я хацеў толькі пацікавіцца: ці вылез бы з-пад пяску, куды я яго хацеў закапаць.

Я кінуўся ўцякаць з хаты, баючыся, што ў такога кемлівага дзіцяці можа ўзнікнуць жаданне: адрэзаць мне вуха і прышыць яго да сваёй курткі, каб пацікавіцца, ці стане прыгажэй ад гэтага ягоная вопратка.

**А. Гембіцкі**




— *Прашу прадоўжыць канікулы за мой кошт.*



**На суд нашчадкаў ён надзей не ўскладаў: быў у даўгу перад сучаснікамі.**

# НІЎКА



— *За Таню, за Маню, за Пецю, за Алёшу, за Рамана, за Колю, за Ваню...*

### АПРАЎДАЎСЯ

Маланка да Кастуся:
— Адкуль ты вяртаешся так позна?
— З лекцыі.
— І гэта лекцыя трывала аж да чацвертай раніцы?!
— Так, бо лектар заікаўся.

## МІНІБАЙКІ

**ЗАГАНА**
Знайшла загану ў салаўя цацера:
— Малы і... шэры!

**СУПАКОІЛА**
Быку гудзела муха цэлы дзень:
— Ты не турбуйся,
я — не авадзень.

**ВЕЧНАЯ ЗАГАДКА**
За ўсё жыццё ніяк не зразумее крот,
На што вясной капаюць людзі агарод.

**МАРКА ГОДНАСЦІ**
Трымае марку годнасці веласіпед:
— Няма, брат, колаў у ступеньчатых ракет!

**АРГУМЕНТ**
У свеце цвік разумным не слыве,
Бо вечна б'юць яго па галаве.

**МЕРА РОЗУМУ**
У дурнях ён хадзіў нямнога,
Бо ўгору ўсё вяла дарога...

**СЛЕД**
Хваліўся чаравік на цэлы свет:
— Не чалавек — я пакідаю след!

**СУМНАЯ РАДАСЦЬ**
Зімою не вельмі радаваўся нос,
Што ў захапленні ад яго мароз.

**КРЫВЫЯ ШТАНЫ**
Тандор не бачыў у нагах віны:
— Маўляў, кравец крывыя сшыў штаны.

**Уладзмір Дубавік**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Бацька — сыну:
— Памятаеш, Роберт, для мяне праца заўсёды была задавальненнем. А ты хочаш, каб за цябе працавалі іншыя!
— Я не такі эгаіст, тата, каб жыць толькі для свайго задавальнення.

*

— Уяўляеш, сёння ў метро адразу трое маладых усталі і прапанавалі мне свае месцы!
— І ты змясцілася?

*

— Джэйн? А з кім жа ты аставіла дачку?
— О, я пасадзіла яе перад тэлевізарам і сказала ёй: „Ты не хвалюйся, малышка. Як толькі во гэта ледзі задушыць во тую ледзі, мамачка прыдзе!“

## ГУМАР З БАРАДОЮ

Аднойчы гаспадар наняў цыгана касіць жыта. Гаспадыня на абед падрыхтавала смачную локшыну з мясам. Цыган да работы быў не надта хуткі, а як сеў есці, то шторaз і цягне з міскі па два кавалкі мяса.

Не сцярпеў гаспадар:
— Ты што гэта па два кавалкі цягнеш?
— А вы як, гаспадар, хацелі? Па тры? Каб удавіўся?

### РАЗУМНЫ

— Міколка, чаму ты спазніўся на ўрокі?
— Я сабраўся на рыбу, але бацька не пусціў мяне.
— Вельмі добра. Ён, вядома, вытлумачыў табе, чаму нельга прапускаць школу?
— Не, ён сказаў, што чарвякоў на дваіх не хопіць.

### НАВІНА

У Задрыповічах:
— Ты чаго гэта вясёлы такі? Толькі ўчора казаў, што на рабоце непрыемнасці. З Задрыпкоўскім палаяўся.
— Э-э, дык гэта было ўчора, а сёння мне навіну расказалі, ды яшчэ і якую!
— Што ж яна за навіна?
— Раніцай той самы Задрыпкоўскі, едучы сваім навюсенькім „Фіятам“, з бульдозерам сутыкнуўся.

### КУРС

— Я цяпер прымаю курс лячэння адпачынкам, — кажа Гапка.
— У чым ён заключаецца?
— Я кожны дзень прыходжу ў паліклініку і сяджу тры гадзіны ў чарзе перад кабінетам доктара!



— *Пачнем усё спачатку...*

З „Весніка Задрыпоніі“

### ГРАМАДСКАЯ ДУМКА

Пасля апрацоўкі анкеты з пытаннем „Кім ты хочаш стаць, калі вырасцеш?“, распаўсюджанай сярод хлопчыкаў дзетсада № 3, адказы размеркаваліся наступным чынам: фізікам-тэарэтыкам — 4 чал., кандуктарам — 11 чал., прадаўшчыкам марожанага — 18 чал., сантэхнікам — 56 чал.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе дзяўчат са Спічак змяшчаем песню*

## CZERWONE SŁONECZKO

z repertuaru zespołu **„Dwa plus Jeden“**
słowa: **M. Łebkowski, S. Werner**
muzyka: **Jerzy Mart**

Dawna piosenko, piosneczko,
mocnaś ty jak kamień,
„Już zachodzi czerwone słoneczko“,
a ty zawsze z nami,
„Już zachodzi czerwone słoneczko“,
a ty zawsze z nami.

Maszerujesz z żołnierzami, raz i dwa!
Hej da, hej da, hej da!
Maszerujesz z żołnierzami, raz i dwa!
Hej da, derum derum da!

Chłopcy w tym wielkim powstaniu,
w dziewiętnastym roczku
szli za tobą, jak za wielką panią,
na calutkim Śląsku.

Chłopcy szli na całym Śląsku,
raz i dwa!
Hej da, hej da, hej da!
Na calutkim Górnym Śląsku, raz i dwa!
Hej da, derum derum da!

Niczym dla ciebie korony
i żelazne bramy,
biły w ciebie gromy i pierony,
a my cię śpiewamy.

A my znowu cię śpiewamy, raz i dwa!
Hej da, hej da, hej da!
A my znowu cię śpiewamy, raz i dwa!
Hej da, derum derum da!

Dawna piosenko, piosneczko,
mocnaś ty jak kamień.
Nie zagaśnie czerwone słoneczko,
a ty będziesz z nami.




*Педагогіка.*

# КУРЁЗЫ

### ВОРАГАЎ — САЛЦЬ!

Японцы — людзі вельмі забабонныя. Але забабоны іх, карэнні якіх ідуць у далёкае мінулае, не раўня „прывычным“ нам чорным кошкам і лічбе 13. Напрыклад, калі японец надзявае новыя туфлі і выходзіць у іх на вуліцу пасля наступлення цемры — значыць, ён самым лёгкадумным чынам наклікае на сябе непрыемнасці. Так жа неразумна ён паступае, калі скручвае начное кімона справа налева. Ды ўжо калі фартуна ўсё-такі глядзіць коса, трэба ўзяць гарачую ванну, і ад душы памыцца.... у спальні: толькі так можна змыць з сябе ўсе бягучыя беды.

А што рабіць, калі прычына нягодаў вядомая, і гэта надакучлівы сусед? Найлепш яго... пасаліць. У літаральным значэнні слова. Пасыпанне крыніцы непрыемнасцей соллю — найлепшы спосаб змяніць жыццё на лепшае.

### ВЯЛІКІЯ Ў СПОРЦЕ

Рускі паэт Аляксандр Пушкін адным з першых у Расіі авалодаў майстэрствам боксу. Ён умеў не толькі сам дасканала баксіраваць, але і ахвотна вучыў іншых. Так у сваіх успамінах князь Вяземскі пісаў: „У 1827 годзе Пушкін вучыў мяне баксіраваць...“

## СМЯШНЕ З НАМІ

**Выйшаў у людзі. А які быў хлопец!**